Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 13 траўня 1933.

# РОДНЫ КРАЙ

№ 10.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрапалітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## У чым наша моц?

Надовячы ў савецкім афіцыёзе „Праўда" была зьмешчана стацьця, у якой „сталінаўскія малайцы" б'юць трывогу з прычыны таго, што—праз пятнаццаць гадоў пасьля рэволюцыйнае перамогі ў Расеі—„разгромленыя і выбітыя з эканамічнае каляіны мяйсцовыя буржуазна-кулацкія нацыяналістычныя рэшткі" ня толькі ня выходзяць з поля, але — ўсьцяж актывізуюцца, выяўляюць узмоцненую дзеяльнасьць на нацыянальнай ніве. І гэтыя „разьбітыя контр-рэволюцыйныя нацыянальныя групы" выяўляюць сваю актыўнасьць навет у лоне камуністычнае партыі! „Апошнімі часамі ў радзе раёнаў, асабліва ў Беларусі й на Украіне, а таксама ў Сярэдняй Азіі ды ў Казакстане, зусім ня рэдкія выпадкі праходжаньня шовіністаў на паасобныя дзялянкі соцыялістычнага будаўніцтва,... асабліва да зямельных органаў ды культурна-прасьветных устаноў, а також школ і навет... да складу партыі і комсамолу..." А ў меру таго, як прадстаўнікі „чырвонага" маскоўскага дзяржаўнага шовінізму выразна імкнуцца да „ліквідацыі нацыянальных рэспублік і краін",—„ухіл да мяйсцовага нацыяналізму на паасобных дзялянках і ў паасобных раёнах робіцца асабліва палючым. Аб гэтым мы пераконываемся цяпер на прыкладзе той-жа Беларусі і інш". І гэтыя „контр-рэволюцыйныя нацыяналістычныя элементы"— „пры беспасярэднім патураньні з боку некаторых мяйсцовых партыйных і савецкіх працаўнікоў"—„стараюцца проціставіць інтарэсы паасобных рэспублік інтарэсам усяе краіны", значыць, СССР.

Прызнаньні савецкае ўрадавае газэты нязвычайна важныя і паказальныя. Яны ясна гавораць, што, ня гледзячы на ўвесь той жудасны тэрор, які распачаў тасаваць Сталін у адносінах—побач з іншымі—да беларусаў, у Савецкай Беларусі здаровы беларускі нацыянальны рух ня толькі ня спыняецца, але —крапчэе, пранікаючы амаль да камуністычнае партыі і комсамолу.—І на першы пагляд проста трудна ўявіць сабе, як гэта можа быць, што за сілы тутака дзеюць, скуль яны бяруцца?

Зваліваньне ўсяго на „кулака", які ўжо даўно „раскулачаны" і канчае выміраць, або на „замежных агентаў"—у адносінах да беларусаў нельга назваць інакш, як дурной адгаворкай: за граніцамі БССР няма ніводнае такое магутнае беларускае арганізацыі, якая-б магла свае сілы й засобы адарваць ад мяйсцовае работы і кіраваць іх у БССР. З другога боку—павадыры беларускага нацыянальнага руху ў БССР запраўды разгромлены, загнаны ў вастрогі, павысыланы ў-ва ўсе канцы СССР або й фізычна зьнішчаны. І ўсё-ж такі — беларускі нацыянальны рух у БССР ня спыняецца і не дае спакойна спаць Сталіну і ягоным „апрычнікам".

Каб зразумець, у чым тут справа, трэба прыпомніць сабе, што ад таго часу, як у СССР здабыла сабе агульны послух ленінская лінія ў нацыянальнай палітыцы, сярод беларускіх сялянскіх і работніцкіх масаў нязвычайна пашырылася нацыянальная сьведамасьць, а галоўнае—нарасла новая народная інтэлігенцыя, якая ўзгадавалася ў беларускіх школах—народных, сярэдніх і вышэйшых. Ня гледзячы на чыста камуністычны дух, якім прасякнены ўсе гэтыя школы, наша маладая інтэлігенцыя не парвала сувязі з беларускай вёскай і працоўным местам, не адарвалася ад „роднага карэньня". І гэтая інтэлігенцыя настолькі ўжо чысьленая і настолькі сьведамая нацыянальна, што ў мамэнт падгатоўкі Чырвонай Масквой „ліквідацыі нацыянальных рэспублік і краін" яна, гэтая інтэлігенцыя, хоць і пазбаўленая сваіх ідэйных павадыроў і адарваная ад замежных цэнтраў нацыянальнага руху, дае рашучы адпор маскоўскаму „вялікадзяржаўнаму" нацыяналізму і бароніць свой народ ад дэнацыяналізацыі і вынішчэньня.

І ў гэтым, а не ў „кулацкай контр-рэволюцыйнасьці" гэтае інтэлігенцыі — уся справа. Вось якую вялізарную сілу прадстаўляе сьведамая нацыянальна народная інтэлігенцыя, ня гледзячы на ўсю яе камуністычную ідэолёгію, у якой узапраўднасьці ня могуць сумлявацца компартыйцы і комсамольцы, каторыя „патураюць беларускім нацыяналістам".

Хай жа гэты факт пакажа й нашаму грамадзянству ў Заходняй Беларусі, якое

**значэньне для нацыянальнае справы мае ўзгадаваньне нацыянальна сьведамае беларускае інтэлігенцыі. Няхай кожын беларус зразумее гэта і напружыць усе сілы, каб дапамагчы вясковай моладзі здабываць сярэднюю асьвету ў беларускіх гімназіях, якія расчыняюць пасьля сваім гадунцом дзьверы і ў вышэйшыя школы—унівэрсытэты, політэхнікі і іншыя. Няхай баявым лёзунгам на нашым культурным фроньце будзе на гэту вясну і лета кліч:**

**— Беларусы! Шлеце сваіх дзяцей у беларускія гімназіі!**

## Праграма з беларускае мовы

### для паступленьня ў III (I) клясу беларускіх дзяржаўн. гімназіяў.

**Мова.** Плаўнае і выразнае чытаньне. Перадача прачытанага сваімі словамі з заменаю, дзе гэта можна, асобы, часу і акалічнасьці. Разбор прачытанага з боку зьместу, формы й будовы такога напр. характару: Якія гэрої ў прачытаным? Час і месца дзеяньня? Якія часьці прачытанага цалком найбольш важныя? Якія мейсцы ў прачытаным найбольш цікавыя? прыгожыя? У якім мейсцы асабліва весела? сумна? страшна? сьмешна? і г. д. На ўсё гэта трэба зьнайсьці адпаведныя цытаты з твору. Адпаведна да гэтага трэба скласьці плян прачытанага з перадачай потым зьместу паводле пляну. Зварочваць увагу на прыгожа мастацкія звароты ў мове. Завучэньне на памяць вершаў. Дэклямацыя.

**Лектура:** Родны Край—ч. 2. — Л. Гарэцкай.

Злучыліся—Тарас Гушча.
Дзеравеншчына—Тарас Гушча.
У Старых Дубох—Тарас Гушча.
Казкі Андэрсэна.
Беларускія народныя казкі (выд. Я. Станкевіча).
Мышанё Пік—В. Біянкі.
Лясныя хаткі—В. Біянкі.
Казка аб вадзе—Бэльлямі
Апавяданьне старога вожыка—Хмарка.
Мурзік—В. Біянкі.
Пра малпачку—Б. Жыткоў.

**Граматыка.** Прадмет. Сказанае і пісанае слова. Прадметнік. Імя собскае і агульнае. Род і лік. Зьмена канчатку слоў прадметніку. Скланеньне. Прыметнік. Імя лічэбнае. Займеньнік. Дзеяслова. Спражэньне. Розьніца паміж дзеясловам і прыметнікам. Лады. Трываньне. Прыслоўе. Часьціны мовы. Словы самастойныя і несамастойныя. Прадлог. Зрастаньне прадлогу са словам. Злучнік. Клічнік. Сказ. Сказы обвяшчальныя, пытальныя і клічныя.

Дзейнік і выказьнік. Асноўныя і дадаяныя часьціны сказу. Азначэньне. Дапаўненьне. Акалічнасьці. Віды сказаў. Просты і зложаны сказ. Склад. Націск. Гукі галосныя і зычныя. Гукі *дз* і *дж*. Азбука (гражданка і лацініка). Цьвёрдыя і мягкія зычныя. Дзеканьне і цеканьне. Звонкія і галосныя зычныя. Аканьне. Словы *не* і *без*. Адмоўнае прыслоўе не (ня).

*Падручнік:* Беларуская Граматыка для школ Б. Тарашкевіча. Выданьне 5-ае 1929 г.

**Правапіс** літар, гукаў і слоў. Вялікія літары. Мягкі знак і апостроф. Літары *ў* і *й*. Склады *ро, ло, ле*. Гукі *ф* і *г*. Правапіс зыч-

## ЯДВІГІН Ш.

**(Антон Лявіцкі).**

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

(Працяг).

У Маскве апынуўся А. Лявіцкі найпраўдападобней у 1886 або 1887 г. З гэтага часу пачынаецца новы пэрыяд у жыцьці ягоным. Часы, у якія ён трапіў у Маскву, былі нязвычайныя. Па ўсей Расеі шырыўся народніцкі рух, які асабліва захапляў студэнцкую моладзь. Аб настроях, панаваўшых у той час сярод маскоўскага студэнцтва, знаходзім мы некаторыя весткі ў "Uspaminach" Ядвігіна Ш., выдадзеных у 1921 г. Ядвігін Ш. таксама быў уцягнуты ў пэўнай меры ў гэты рух. Ен належаў да „Менскага зямлячэства“ (корпарацыя землякоў), у той час нелегальнага. „Памятую, добра памятую,—піша ён у „Uspaminach“,— той момант, калі невялічкая кучка бліжэйшых сабе сябрукоў сабралася ў цеснай каморцы свайго „раённага“ на нараду“. Народніцкі рух быў зразумелы для яго, у ім былі супольныя элемэнты з шляхотнымі традыцыямі шляхоцкага романтызму. У Маскве, зразумела, былі розныя палітычныя кірункі сярод студэнтаў; Ядвігін Ш. выбраў найбольш адпавядаючы яму. Сярод студэнтаў ішла падгатоўка да выступленьняў „з пэўнымі вымаганьнямі ўступак ад тагачаснага ўраду“. Выступленьні гэтыя былі й раней. Студэнты дамагаліся эканамічных палёгак, а таксама пашырэньня сваіх праваў. Студэнцкія разрухі адбыліся нечакана для саміх студэнтаў. Арышт студэнтаў Пятроўскае Акадэміі выклікаў солідарныя выступленьні іншых студэнтаў. Паліцыя пераарыштавала студэнтаў і пасадзіла іх у „перасыльную турму“ Бутыркі — у Маскве. Сярод іх (а было іх, як падае Ядвігін Ш., 412) быў і ён сам. І вось у Бутырках, пасьля міжнароднага канцэрту украінцаў, расейцаў, палякоў і каўказцаў, — беларускія студэнты пачулі асабліва балюча сваю нацыянальную абасобленасьць, пачулі тугу па сваім родным, беларускім. Тут-жа, у Бутырках, закладзены быў першы „Беларускі Гурток Моладзі ў Маскве“, да якога належыць і Ядвігін Ш. Разруха, пракаціўшаяся па ўсіх унівэрсытэцкіх гарадох Расеі, хутка

ных гукаў. Галосныя пасьля зацьвярдзеўшых. Гукі *д, т, дз* і *дж.* Правапіс галосных. Літары *о* і *э*. Правапіс гуку *е*. Падвойныя літары (мягкія і цьвёрдыя). Правапіс некаторых злучэньняў зычных. Правапіс прыйменьняў і прыставак. Правапіс адмоўных прыслоўяў *не, ні*. Дыктоўкі на вышэйпералічаныя правілы і пісьменная передача прачытаных расказаў, апавяданьняў і казак.

Укладаньне самастойных пісьменных працаў на такія напр. тэмы: Як я навучыўся плаваць? Як я злавіў раз птушку? Як я навучыўся чытаць? Як пастушкі спалілі стог сена? Што я бачыў, быўшы першы раз у горадзе? у лесе? у вёсцы? Першы гром. На начлезе. На сенакосе. Як мяне захапіла раз бура ў полі?

*Падручнік:* Беларускі Правапіс Р. Астроўскага. Выданьне 2-е 1930 г.

**Увага:** Усе азначаныя падручнікі і кніжкі можна дастаць (выпісаць) у Беларускай Кнігарні У. Манкевіча ў Вільні.

Адрас: *Wilno, ul. Ostrobramska 1, Księgarnia W. Mankiewicza.*

Грошы можна перасылаць у кнігарню па пошце бясплатна на конто Р. К. О. № 61.991.

# Гаспадарчы аддзел.

## Земляныя блохі.

**Земляныя блохі — гэта невялічкія, яйкаватае формы, чорныя жучкі. Жучкі гэтыя прыносяць вялікую шкоду ў гародах, асабліва ў часе сухое і гарачае вясны. Ядуць яны маладое лісьцё расьлінаў і, дзякуючы гэтаму, расьліны ня могуць нармальна расьці, а часамі й цалком гінуць. Земляныя блохі маюць доўгія ногі і, калі іх патурбаваць, хутка скачуць з аднае расьліны на другую.**

**Змагаюцца з гэтым шкоднікам рознымі спосабамі. Адным із такіх (і трэба сказаць—добрых) спосабаў ёсьць частае скрапляньне расьлін вадою, да якое была дададзена невялікая колькасьць адвару тытуну. Адпуджваюць земляныя блохі і пілавіны, намочаныя ў нафце і рассыпаныя на паверхні зямлі. Так сама карысна пасыпаць расьліны, на якія напалі блохі, дрэўным попелам або вапнавым парашком. Можна таксама супраць іх ужыць 1-прац. рашчыну бардоскае жыжкі.**

**Есьць яшчэ адзін, досыць просты, але пэўны спосаб барацьбы з землянымі блохамі: гэта — вылаўліваньне іх на ліпкую дошку. Робіцца гэта так: да ценкае дошкі прыбіваецца палка, за якую потым яе цягнуць, а на другім канцы прымацоўваюцца колцы. Калі на агародных расьлінах зьяўляецца земляныя блохі, тагды дошка намазваецца смалою жывіцаю ці чым-небудзь іншым ліпкім, і цягнуць гэту дошку па градках. Спуджаныя жучкі скачуць і прыліпаюць да дошкі. Паўтараючы такую апэрацыю колькі разоў на дзень, можна ў сябе гэтых шкоднікаў цалком зьнішчыць.**

## Крывавая мача.

**Пасьвішчы, якія знаходзяцца непадалёк ад лесу, дзе шмат іглястых дрэваў, бываюць досыць небясьпечныя для кароў вясной, калі іглястыя дрэвы цьвітуць. У часе цьвету ападае шмат смольных лускаў, якія, калі іх спажывае рагатая жывёла, выклікаюць у апошняе зацьвярджэньне ў жываце, а мача адначасна робіцца крывавай. Калі гаспадар ня**

скончылася. Пасьля выпадкаў А. Лявіцкі далей прадоўжвае сваю навуку, працуючы таксама актыўна ў Гуртку. Разам з іншымі студэнтамі-беларусамі ён праце над перакладам „Сыгналу“ Усевалода Гаршына, які ў 1891 г. й выдаецца Гуртком. Бліжэйшых вестак аб жыцьці А. Лявіцкага ў Маскве я дагэтуль не знайшоў. Па сканчэньні навукі й адбыцьці практыкі ў аднэй з маскоўскіх аптэк, Антон Лявіцкі варочаецца на бацькаўшчыну. Па павароце на Беларусь ён працуе ў аптэцы ў Радашкавічах, недалёка ад Карпілаўкі. У гэты час памёр ужо яго бацька. А. Лявіцкі пачынае нядужаць. Аб здароўʼі яго ў дзяцінстве і аб здароўʼі яго бацькоў я не даведаўся нічога. Хіба цяпер гэта былі пачаткі сухотаў, якія пасьля й злажылі яго ў магілу. З прычыны хворасьці, Антон Лявіцкі кідае працу ў аптэцы і працуе ў Радашкоўскай хаўруснай краме да 1897 г., бываючы часта ў Карпілаўцы. У гэтым часе (1895 г.) А. Лявіцкі жэніцца з Люцыяй Ігнатоўскай. Аб жонцы яго Бадунова ў успамінах кажа, што: была яна „ласкавая, ціхая, як анёл, з чулым сэрцам і разьвітым розумам кабета“. Гэта яшчэ ня шмат гаворыць. З увагі на разьвіваючуюся хваробу, а можа таксама з увагі на сямʼю, Лявіцкі быў прымушаны перабрацца ў 1897 г. у свой фальварак Карпілаўку. Там ён жыве даўжэйшы час, займаючыся працай у садзе й гародзе, і так значна папраўляе сваё здароўе, што ў 1903 г. мы бачым яго ўжо ў Вільні. Але ў Вільні ён затрымліваецца ўсяго каля году. У 1904 г. ён ізноў варочаецца ў Карпілаўку, пасылаючы стуль часам свае творы ў менскую расейскую газэту „Белорусский Вестник“ і віленскі польскі тыднёвік „Zorza Wileńska“.

Рэволюцыя 1905—6 г.г. ускалыхнула беларускі народ. Разам з соцыяльным рухам прабуджаецца шырокае нацыянальнае ўсьведамленьне. Рэволюцыя гэтая была ў гісторыі нашага адраджэнскага руху пераломным пунктам. Ад гэтага часу ўсе ручайкі й ручаёчкі, якімі разьвіваўся беларускі рух, зьліліся ў адну соцыяльна-нацыянальную раку. Ад гэтага часу, можна сказаць, выразна стаўляюцца ўжо ня толькі соцыяльныя й нацыянальныя лёзунгі, але таксама й палітычныя. Беларускі адраджэн-

зробіць своечасна захадаў супраць гэтае хваробы, або калі аб прычынах яе ня ведае, то яна можа скончыцца зусім кепска. У такіх выпадках трэба жывёлу на пасьвішчы каля лесу ня пушчаць, а даваць хворай жывёле корм, які дзее развальняюча, як морква, буракі або зялёны корм. Таксама карысна даць жывёле на прачышчэньне каля 25 дэка гляўбэрскае солі, распушчанае ў вадзе.

### Назапасьма сухое крапівы на зіму для курэй.

Часта даводзіцца чуць, што куры гаспадару не даюць зыску, і што іх няма выражаваньня трымаць. Тым часам гэта ня зусім так. Гадоўля курэй дае зыск і добры, калі толькі мы завядзём у сябе добрую носную пароду і пастараемся, каб у працягу ўсяе зімы куры мелі адпаведны корм.

Кураводы-практыкі пераканаліся, што крапіва, як у сырым, так і сухім стане вельмі добра ўплывае на носнасьць курэй; таксама добра прымешваць яе ў корм куранятам. Сухая крапіва даецца курам расьцертая і запараная; яе прымешваюць да мягкага корму.

Апрача спэцыфічнага дадатняга ўплыву на носнасьць, крапіва зьяўляецца добрым кормам і дзеля таго, што мае ў сабе шмат бялку і мінэральных складнікоў. Цяперашні вясеньні час трэба выкарыстаць і назьбіраць патрэбную колькасьць гэтае карыснае расьліны. Адно толькі трэба тут падкрэсьліць, што крапіву трэба зьбіраць гэтак званую „жыжкую", пякучую крапіву і то, калі яна яшчэ зусім маладзенькая.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Друк „Гадавіка" Беларускага Навуковага Т-ва** ўжо закончаны, і »Гадавік» гэтымі днямі пойдзе ў прадажу. »Гадавік« абыймае звыш 200 стр. вялікшага формату і зьмяшчае рад цікаўных навуковых прац гэткіх аўтараў: М. Шкелёнка, а. Ул. Талочкі, Д-ра М. Ільяшэвіча, Б. Брэжгі, Д-ра Яна Станкевіча, Ант. Навіны (А. Луцкевіча), Р. Астроўскага, а такжа вельмі цэнныя справаздачы аб працах над беларускім мастацтвам Ул. С. і г. д., справаздачу аб працы Бел. Нав. Т-ва за пятнаццаць гадоў існаваньня яго і апісаньне скарбаў Беларускага Музэю ім Ів. Луцкевіча. »Гадавік« мае 26 ілюстрацыяў у тэксьце.

Больш падрабязны агляд падамо ў наступным нумары нашага часопісу.

**Матуральныя экзамены ў Беларускай Філіі Дзяржаўнае гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні** пачынаюцца сёлета 22 траўня. Лічба вучняў у восьмай класе — 17; лічба экстэрнаў пакуль-што — 5, але можа йшчэ павялічыцца.

**Агульны гадавы сход беларускага коопэратыву.** 3 траўня адбыўся агульны гадавы сход коопэратыву »Супулдзельца«. Сход выслухаў справаздачу Ураду і Нагляднае Ра-

скі рух выходзіць на сьветлы шлях. Дзякуючы ўздыму 1905—6 г.г., беларускі рух пранікае ўглыб і ўшыр да масы. Паўстае й патрэба беларускае прэсы, якая й бярэ ад гэтага часу свой пачатак. Выходзіць у сьвет „Нашая Доля", а пасьля, калі рэакцыя спыніла яе існаваньне, — прадаўжацелька яе „Наша Ніва". Антон Лявіцкі навязывае лучнасьць з „Нашай Доляй" і друкуе там (у № 3) першы раз пабеларуску свае апавяданьне „Суд" пад псэўдонімам Ядвігін Ш. Але пасьля гэтага літэратурнага дэбюту ў беларускай прэсе ён заціхае аж да 1909 г., ад якога ўжо стала — з невялічкімі перарывамі — супрацоўнічае з «Нашай Нівай» *), наведываючы часам віленскіх нашаніўцаў. Калі разьвіваецца жывая беларуская праца ў Вільні, ён пераяжджае сюды на жыцьцё.

Сілы яго ў гэтым часе настолькі акрэплі, што ў 1910 г., улетку, ён адбывае разам з М. Шылай **) падарожу з Вільні праз Любчу, Шчорсы, Куранец, Аляхновічы ў родную Карпілаўку, праходзячы звыш 400 вёрст. Свае ўражаньні з падарожы ён апісаў у «Лістох з дарогі», пісаных у дарозе, друкаваных у «Нашай Ніве» ад 10 (23) чэрвеня 1910 г. да 21 кастрычніка 1910 г. амаль ня ў кожным нумары. У гэтым часе выходзіць першы раз асобнай кніжачкай яго поэмка «Дзед Завала» (1910 г.), а пасьля зборнікі апавяданьняў «Бярозка» (1912) і «Васількі» (1914). У Вільні Ядвігін Ш. пэўны час зьяўляецца рэдактарам сельска-гаспадарчага месячніка «Саха», а пасьля газэты «Bielarus». Вясной 1914 г. Ядвігін Ш. пераяжджае ў Менск. Пэўны час зьяўляецца там рэдактарам «Сахі» і супрацоўнікам «Лучынкі», рэдагаванай «Цёткай». Падчас вайны «Саха» й «Лучынка» спыняюць свае існаваньне. Ядвігін Ш. працуе ў «Беларускай Кнігарні» ў Менску. Улетку 1915 г. Ядвігін Ш. — разам з іншымі беларусамі — прымае ўчасьце ў арганізацыі ў Менску «Беларус-

*) Сувязь з „Н. Н." завязалася дзякуючы блізкаму асабістаму знаёмству з рэдактарам „Н. Н." Алякс. Уласавым, фальваракам якога, Мігаўка, знаходзіцца таксама, як Карпілаўка, недалёка ад Радашкавіч.

**) Аб сваім супадарожніцтве паінфармаваў мяне сам гр. М. Шыла, ішоў ён разам з Ядвігіным Ш. да Аляхновіч.

ды за 1932 год і даў Ураду абсолюторыюм. У часе дыскусіі выявілася патрэба рэарганізацыі працы ў коопэратыве, каб справа наладзілася лепш, бо ў мінулым годзе коопэратыў меў невялікую страту. Паправа, якая, — дзякуючы сваечасна прынятым мерам, — ужо выявілася за апошні квартал, паказала, што палажэньне коопэратыву не благое і на будучыню можа йшчэ палепшыцца. Нававыбранаму Ураду у складзе: гр. гр. С. Кароль, Ул. Манкевіч, А. Флёраў — сход даручыў выпрацаваць праект рэарганізацыі працы ў коопэратыве і прадставіць агульнаму сходу, прадоўжаньне якога адкладзена на 2 чэрвеня. Тады-ж будзе зацьверджаны і бюджэт.

Наглядная Рада сформавана ў гэткім складзе: гр. гр. А. трэпка, Р. Астроўскі, А. Сакалова-Лекант, М. Ільяшэвіч, М. Сіняўскі, Лукашэвіч, Дзежкін, Парфімовіч, Маразэвіч.

**Віленскія рыначная цэны на прадукты і збожжа:** Яйкі 3 зл. 40 гр. капа. Масла выбаровае 3 зл. гуртовая цана і 3 зл. 40 гр. дэт. Масла 2-га сорту 2 зл. 60 гр. гурт.; 2 зл. 90 гр. дэт. Саланіна сьвежая 1,60—1,80, соленая — 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Жыта 20 гр. кгр. Авёс—14 гр. кгр. Ячмень 17 гр. кгр.

## На правінцыі.

**Цяжкое палажэньне на вёсцы.** Мы атрымалі цэлы рад пісем з вёскі, у якіх малюецца нязвычайна цяжкое палажэньне сялянства перад новым ураджаем, да якога йшчэ даволі далёка. Хлеба няма, бульба — і тая канчаецца. Адзін з грамадзян піша з Пружаншчыны аб сваім проста распачлівым палажэньні: мае двое малых дзяцей, якіх дослоўна няма чым карміць. Такое-ж пісьмо атрымана з-пад Шаркаўшчыны. У абодвух выпадках нас просяць дапамагчы знайсьці работу да восені ў горадзе. Але дзе-ж яе знойдзеш?...

Крызіс на вёсцы, здаецца, толькі цяпер „дакаціўся да дна"... Каб жа пачалася паправа!

## У Латвіі.

**З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі.** З пачаткам гэтага году значна ажывілася праца ў аддзелах Т-ва на правінцыі. На адбытых агульных гадавых сходах абнавіліся ўрады аддзелаў: Кузьмінскага, Макняўскага, Прыдруйскага, Бельскага, Пырдаўскага, Пасінскага, Шушкоўскага, Зілупскага. Жывая праца йдзе і ў цэнтры—у Рызе, дзе за апошнія месяцы адбыўся рад зборак з рэфэратамі, спэктакляў і вечарын.

У Шушкоўскім аддзеле ставілася нядаўна ведамая п'еса Янкі Купалы „Раскіданае Гняздо", якая ў Зах. Беларусі дзеля пастаноўкі на сцэне забаронена.

**Друкаваньне беларускіх падручнікаў.** У сувязі з урадавай забаронай карыстацца ў беларускіх школах Латвіі—ад 1 жніўня 1934 г. —падручнікамі, друкаванымі заграніцай, міністэрства асьветы распачала друк неабходных учэбнікаў. Ужо друкуецца беларускі падручнік да географіі, перакладзены з латышскае мовы П. Масальскім.

**Беларускія песьні на канцэртах.** Расейскі хор „Баян" у Рызе на сваіх канцэртах пачаў, паміж іншым, выпаўняць і беларускія песьні. Першая такая спроба была вельмі ўдалая і сустрэла гарачае прыймо ў публікі.

---

кага Т-ва помачы ахвярам вайны. Пэўны час ён быў старшынёй гэтага Т-ва *). Ад 1914—17 г. Ядвігін Ш. выяўляе значную грамадзкую актыўнасьць, аддаючы беларускай справе шмат энэргіі і здароўя. У 1917 г. ён выступае на мітынгах, сходах, зьездах і ўваходзіць, як сябра, у склад Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. За час ад «Нашае Долі» да 1917—18 г. Ядвігін Ш. наагул быў найбольш чынны як у галіне грамадзкай, так і літэратурнай працы. Але ад рэволюцыі 1917 г. здароўе Ядвігіна Ш. усё больш і больш заяўляе аб сваім стане, і Ядвігін Ш. як-бы адходзіць ад беларускае працы, перастае быць актыўным аж да самае сьмерці, у 1922 г. За гэты час у Ядвігіна Ш. заўважаецца й творчае вычарпаньне. Ен ужо больш жыве ўспамінамі, часта хварэе, здароўе яго паважна надарвана, чаму спрыялі папярэднія частыя «запоі» пісьменьніка. Зіму 1918 г. Ядвігін Ш. праляжаў у менскім шпіталі, вясной ён варочаецца ў сваю Карпілаўку. У 1920 г. ён друкуе повесьць «Золата» ў менскай газэце «Беларусь», аднак яе не канчае. З 1920 г., з восені, Ядвігін Ш. стала жыве ў Вільні. Да гэтага часу адносіцца якраз знаёмства Бадуновай з пісьменьнікам. Знаёмства гэтае было, зрэштай, вельмі нядоўгае. Яна была з Ядвігіным Ш. у Карпілаўцы летам 1918 г., дзе праводзіла пэўны час у гасьціне. Фальварак яго быў, як кажа В. Лёсік, у 1917 г. разгромлены (шмат тады й загінула твораў). У 1919 — 20 г. г. Лявіцкі супрацоўнічае з групай Балаховіча і Аляксюка. З арміяй Балаховіча пехатой адбыў марш на паўдзён Беларусі. Быў у Пінску і Лунінцы. Супрацоўнічаў пэўны час у газэце «Зьвястун», выдаванай пры арміі Балаховіча. Пасьля выехаў у Варшаву, дзе жыў (разам з гр. Адамовічам) 4 месяцы ў Саскім готэлі. У 1921 г. выходзяць у Вільні яго „Uspaminy", друкаваныя лацінікай. Стан здароўя яго ўсё горшае й горшае. 4 лютага 1922 ён змушаны легчы ў Віленскую Літоўскую Клініку, дзе 23 й памер на 56 годзе жыцьця. Пахаваны 24 лютага на віленскім каталіцкім магільніку Росе,

(Працяг будзе).

*) Аб гэтым я даведаўся ад студ. Я. Зянюка, які ў той час быў у Менску.

**Новы нумар „Бел. Школы ў Латвіі"** (за люты), крыху спозьнены, зьмяшчае пачатак цікаўнае стацьці Зьмітра Даўгяла аб „Літоўскай Мэтрыцы" і адзначае тры юбілеі: 37-гадовае вучыцельскае працы гр. М. Іванова і 25-гадовае—гр. гр. Я. Кастылюка і Г. Плыгаўкі.

## У Літве.

**Мэморандум да літоўскага ўраду.** Беларускае Культ.-Асьв. Таварыства ў Літве зьвярнулася да літоўскага ўраду з мэморандумам, у якім дамагаецца ўвядзеньня ў бюджэт міністэрства асьветы асыгновак на дапамогу беларускім культурным установам (праектаваныя беларускія школы, аб'езны тэатр, народны унівэрсытэт і інш.). Апрача таго мэморандум дамагаецца зацьвярджэньня правоў сялян-беларусаў на зямлю, купленую яшчэ да вайны праз Сялянскі Зямельны Банк, а такжа выдачы літоўскіх пашпартоў беларусам, якія выэміґравалі ў Літву з Заходняе Беларусі.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Выбары Прэзыдэнта.** 8 траўня выбраны прэзыдэнтам Польскай Рэспублікі на новае 7-леціцьце праф. Ігнат Мосьціцкі.

Толькі ў апошнія дні перад выбарамі В. Б. высунуў кандыдатуру п. Мосьціцкага, выбар якога тым самым ужо згары быў забясьпечаны.

Паводле Канстытуцыі прэзыдэнта выбірае так зван. Нацыянальнае Сабраньне, якое складаецца з паслоў і сэнатараў. З усяго складу 444 паслоў і 111 сэнатараў учасьце прынялі ў галасаваньні толькі 343 сябры Нац. Сабраньня. Рэшта, зложаная з опозыцыйных клюбаў Сойму і Сэнату, ухілілася ад учасьця ў выбарых, хочучы такім чынам выразіць пратэст проці пануючага ў Польшчы палітычнага рэжыму. Але гэтая „сацэсія" опозыцыі зусім не перашкодзіла законнасьці выбараў: Канстытуцыя вымагае прысутнасьці толькі ня менш паловы ўсіх сяброў выбаршчыкаў законадаўчых палатаў. З лічбы 343 прысутных выбаршчыкаў 332 падалі голас за п. Мосьціцкага.

Апрыч сяброў Б. Б., за яго кандыдата галасавалі—з польскіх клюбаў — паасобныя паслы, што выступілі з клюбаў опозыцыі, а з меншасьцяў толькі—жыды. Немцы былі прысутныя, але аддалі пустыя карткі. Камуністы... выставілі свайго кандыдата, пасла Лешчынскага, за якога й падалі свае 4 галасы.

На другі дзень, 9 траўня, згадзіўшыся прыняць выбар новы прэзыдэнт зложыў прысягу на вернасьць Канстытуцыі.

**Адстаўка габінэту Прыстора.** Пасьля выбараў прэзыдэнта габінэт Прыстора падаўся ў адстаўку, каб не сьцясьняць волі п. Прэзыдэнта ў формаваньні новага органу выканаўчае ўлады.

**Склад новага ўраду.** П. Прэзыдэнт даручыў утварэньне новага ўраду цяперашняму міністру рэл. вызн. і народнае асьветы Я. Енджэевічу. Апошні сформаваў габінэт у гэткім складзе: унутраныя справы — Пераццкі, заграпічныя—Бэк, вайсковыя—Я. Пілсудскі, фінансы—Завадзкі, суды — Міхалоўскі, земляробства і зямельныя рэформы — Някапечнікаў-Клюкоўскі, прамысловасьць і гандаль — Зажыцкі, міністэрства шляхоў — Буткевіч, сопыяльная ахова—Губіцкі, пошта і тэлеграф—Каліньскі. Міністэрства р. в. і нар. асьветы новы прэм'ер захаваў надалей для сябе.

**Працэс „Цэнтралеву" у Найвышэйшым Судзе.** 9 траўня Найвышэйшы Трыбунал скасаваў прыгавор у справе так зван. „берасьцейскіх вязьняў", ці палоўных правадыроў так-зван. „Цэнтралеву", і даручыў судзіць іх паўторна. Як ведама, у свaім часе яны былі прызнаны вінаватымі і засуджаны на розныя кары.

## За граніцай.

**Канфэрэнцыя ў справе разбраеньня.** Канфэрэнцыя ў справе разбраеньня пагражае разьбіцьцём. Прычына бяццам — спор нямецкае дэлегацыі, якая адкідае ўсе дамаганьні іншых вялікіх дзяржаваў у справе аднолькавага ладу ў-ва ўсіх арміях сяброў Лігі.

**Вайна ў Кітаі.** 9 траўня распачалася новае наступленьне японцаў у напрамку Пэкіну і Цянь-Дзіну. Заняты блізу бяз бою рад важных стратэгічных пунктаў, як Дэленор і Калган. Заняцьце правінцы і Чыхар адкрые Японіі выгодныя шляхі на Пэкін і Цянь-Дзін і—у Манголію. У Пэкіне—паніка.

**Японія і СССР.** Японія запрапанавала савецкаму ўраду наладзіць канфэрэнцыю прадстаўнікоў Японіі, СССР і... Манджуры. Канфэрэнцыя мела-б мэтай вырашыць усе спорныя справы паміж гэтымі дзяржавамі, у першую чаргу—справу Усходня-Кітайскае чыгункі. І вось, савецкі ўрад, як піша ангэлійская прэса, згадзіўся на прапазіцыю Японіі, і канфэрэнцыя мае распачацца ўжо 20 траўня.

Характэрна, што згода савецкага ўраду на ўчасьце ў канфэрэнцыі Манчжуры зьяўляецца фактычным прызнаньнем Манчжуры, як незалежнае дзяржавы, чаму толькі-што запярэчыў Літвінаў...

**Ваенная змова ў Гішпаніі.** У Гішпаніі выкрыта новая спроба ваеннае змовы проці рэвалюцыйнага ўраду. На чале змовы стаялі два гэнаралы, з якіх адзін — арыштаваны, а другі ўцёк у Португалію.

**Безрабоцьце ў Амэрыцы.** Паводле апошніх дадзеных, у Злучан. Штатах Паўн. Амэрыкі лічба безработных дайшла да 17 мільён. з гакам. Амэрыканскі Сэнат урэшце паста-

навіў асыгнаваць на барацьбу з безрабоцьцем паў-мільярда даляраў.

**Ганді выпушчаны на волю.** Ганді абвясьціў галадоўку, каб змусіць вышэйшыя „касты" індыйскага грамадзянства да прынцыповага прызнаньня грамадзкіх і чалавечых правоў так-званых „парыяў", ніжэйшае касты, якая ў Індыі лічыцца літэральна ніжэй за жывёлу (бо ж некаторыя жывёлы лічацца навет „сьвятарнымі"...). Ангельскі ўрад, баючыся, каб Ганді не памер ад галадоўкі ў вастрозе дый каб у народзе не зьвязалася гэтая сьмерць яго з няволяй, зараз-жа звольніў Ганді. Але той заявіў, што галадоўку будзе прадаўжаць, пакуль не зьмягчыць жорсткіх сэрцаў „шляхотных кастаў" краю, насамперш „брамінаў" (духавенства), якія стаяць на чале грамадзянства дый найбольш працівяцца прызнаньню чалавечае роўнасьці „парыяў" і дазволу ім... уваходзіць у сьвятыні!

# Польшча—СССР—Нямеччына.

## Паляпшэньне польска-савецкіх адносінаў.

Савецкі ўрад перажывае цяжкія часы. На Далёкім Усходзе вайна з Японіяй вісіць на валаску. З Англіяй гаспадарчая вайна—у поўным разгары. Напружаньне палітычных стасункаў з Нямеччынай адбіваецца, зразумела-ж, і на гаспадарчым супрацоўніцтве паміж абыдвума краямі. Усё гэта змушае савецкі ўрад шукаць далейшага збліжэньня з Польшчай. З другога боку, пагроза з боку гітлераўскае Нямеччыны дый ведамае „ахаладжаньне" да Польшчы з боку кіруючых у Францыі радыкалаў—прымушае і Польшчу шукаць падтрыманьня ў Саветах. Дык на нашых вачох і адбываецца ўсё больш цеснае палітычнае і гаспадарчае збліжэньне паміж гэтымі суседнімі дзяржавамі.

1 траўня ў Польшчу прыбыла савецкая гандлёвая дэлегацыя на чале з тав. Боевым, якая й мае мэтай ажывіць гандлёвы абмен між Польшчай і СССР. Калісьці—да вайны —вялізарны расейскі рынак паглынаў цалком вырабы польскае прамысловасьці, а вось за апошнае дзесяцілецьце польскі вываз у СССР складае ня шмат больш за 2% усяго польскага вывазу. Лёгка зразумець, які росквіт польскае прамысловасьці дало-б адчыненьне і адраджэньне вялікага ўсходняга рынку. У зьвязку з гэтым паваротам вялізарнае ўражэньне зрабіла прыймо марш. Пілсудскім на даўжэйшай візыце савецкага пасла ў Варшаве.

## Раптоўная зьмена ў нямецка-польскіх адносінах.

Пасьля гэтулькіх пагрозаў і правакацыяў з боку гітлераўцаў па адрасу Польшчы ў гітлераўскім урадзе раптам зрабілася неспадзяваная зьмена.

2 траўня Гітлер прыняў польскага пасла ў Бэрліне, п. Высоцкага, якому паміж іншым заявіў, што яго урад — „мае нязломную волю да ўтрыманьня мірных стасункаў з Польшчай і ўпарадкаваньня іх — найсьцісьлей у рамах існуючых трактатаў..." Заява гучыць запраўды-ж сэнсацыйна, калі ўспомніць, што пісалі і казалі адкрыта гітлераўскія правадыры на чале з самім Гітлерам аб неадхільнасьці хуткай вайны з Польшчай, аб рашучай зьмене граніцаў „нямецкім мячом", аб неабавязковасьці для Нямеччыны трактату і т. д.

На другі-ж дзень, 3 траўня, мін. замежных спраў Польшчы п. Бэк прыняў нямецкага пасла ў Варшаве, п. Мольтке, якому з свайго боку зрабіў суадказныя прыязныя заявы.

Калі-б усе гэтыя заявы былі шчырыя, дык мусіла-б наступіць значнае адпружаньне ў нямецка-польскіх адносінах, што магло-б даць надзею на трываласьць міру ў Эўропе.

## Аднаўленьне саюзу паміж Нямеччынай і СССР.

Відаць, каб не настрашыць залішне такім палітычным крокам СССР, дый не дапусьціць да залішне цеснага збліжэньня паміж СССР і Польшчай, Гітлер — аднаўленьнем 5 траўня саюзу з СССР — паказаў, што зусім ня зьбіраецца рваць „традыцыйныя сувязі прыязьні" з савецкім урадам.

Такім чынам, пачатак бягучага траўня даў рад фактаў вялізарнае вагі ў палітычных стасунках Усходняе Эўропы.

# Што трэба ведаць работніку-беларусу.

Адной з найважнейшых задачаў так-званага сацыяльнага законадаўства зьяўляецца ахова працы, абарона работніка ад вызыску з боку яго сацыяльнага супрацоўніка-супраціўніка—капіталіста.

Соцыяльнае законадаўства Польскае Рэспублікі можа лічыцца адным з найбольш паступовых. Але, зразумела-ж, яно можа з паперы перайсьці ў жыцьцё толькі тады, калі самі работнікі будуць дамагацца рэалізацыі прызнаных ім законам правоў, а першым чынам — калі будуць дакладна ведаць, што-ж кажа аб гэтых правох дзеючы закон.

Даючы працадаўцы права звальняць работніка, закон вымагае ад працадаўцы папярэджаньня работніка загадзя, ці так зван. „вымувеня" яму пасады ці працы, каб даць яму час пашукаць сабе іншае працы ці пасады. Апрыч таго закон прадбачыць так-званыя „окрэсы охроннэ", ці ахоўныя пэрыяды, у часе якіх працадаўца рабіць „вымувене" ня мае права, а калі-б і зрабіў, дык яно ня мела-б ніякае законнае сілы. Аб гэтым выразна кажа Распараджэньне п. Прэзыдэнта, выданае ў 1928 г.

Гэты дэкрэт п. Прэзыдэнта аб умове аб працы забараняе рабіць „выповедзэне" работніку:

1. у часе водпуску (урлёпу), які — па думцы законадаўцы — павінен быць выкары-

станы для адпачынку, але не для шуканьня новае пасады ці працы;

2. у часе хваробы ці якога нешчасьлівага выпадку: „ахоўны пэрыяд" тутака трывае 4 тыдні;

3. у часе так-зван. „цьвічэнь войсковых".

Апрыч таго, яшчэ закон 1924 г., які ахоўвае працу жанчын і малалетніх, забараняе рабіць „выповедзэне" жанчынам — у апошнія 6 тыдняў цяжарнага стану, у апошнія 6 дзён кожнага месяца гэткага стану і ў працягу 6 тыдняў ад дня нарадзінаў дзіцяці.

## Паштовая скрынка.

Атрыманы грошы па падпіску газэты: ад Шышло Ігната 1 зл.; Асецінскай Веры 60 гр

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

### Літэратурная хроніка.

— Перад першым мая арыштаваны беларускі поэта Міхась Васілёк (Косьцевіч), які дагэтуль прабывае ў сьледчым вастрозе. Як даведываемся, пры вобыску ў Васілька нічога „абцяжаючага" не знайшлі, дзеля гэтага трэба спадзявацца яго хуткага звальненьня.

— У Вільні за апошнія часы заўважаецца ажыўленьне працы нашых поэтаў. 3-га мая адбылася гарбатка беларускіх поэтаў і літэратараў, на якой парушана была справа выданьня альманаху.

— Літэратурны вечар. 7-га мая у гмаху Віленскага Унівэрсытэту быў наладжаны Т-вам Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. Літэратурны вечар. На вечары былі прачытаны спэцыяльна прыгатаваныя да гэтага творы: Н. Арсеневай, Я. Быліны, Хв. Ільляшэвіча, М. Машары, М. Васілька і Я. Вількоўшчыка. Уступное слова аб беларускай літэратуры сказаў старшыня Т-ва Ст. Станкевіч, які, апрача таго, коратка характэрызаваў творчасьць кожнага з поэтаў перад чытаньнем яго твораў. Вечар наагул удаўся. Публіка, даволі лічна сабраная, была задаволеная. Трэба адзначыць, што некаторыя аўтары былі слаба выражаны дэкляматарамі, як напр. Арсеньнева Г. Шутавічанкай. Падобнага роду імпрэзы трэба шчыра прывітаць.

— Як даведываемся, прыгатаваны да друку і чакаюць выданьня два зборнікі вершаў: „На сонечны бераг" М. Машары і „Вулачныя далі" Х. Ільяшэвіча. Сумнае палажэньне нашых выдавецтваў стаіць на перашкодзе выданьню гэтых зборнікаў. Таму—не вядома, колькі яшчэ прыдзецца „чакаць" ім на апублікаваньне.

### Гальлё! Гальлё! Гаворыць „Куток".

„Літэратурны Куток" у сувязі з „зацішшам" у поэтыцкай дзяльнасьці Аўгеня Бартуля пытае яго зьдзіўлена: што з Вамі? і запрашае да супрацоўніцтва ў „Кутку". Ці-ж „ліра-разьбітая"? Адначасна зьвяртаемся з просьбай да Натальлі Арсеньневай прысылаць нейкую вестку аб сваім „жыцьці-быцьці" (і... творы). Ужо—„сіняе неба"...

Міхася Машару „Куток" просіць таксама напісаць нам што небудзь. Ці, плывучы „На Сонечны бераг", хапае часам... на махорку?

Усіх бяларускіх поэтаў, ведамах і няведамых, прызнаных і няпрызнаных, заклікаем да супрацоўніцтва ў нашым „Кутку".

## Сіла песьні.

— Сумна, сумна, дзядулячка мой!
Раскажы мне што-небудзь з былога,
можа байкай даўнейшай якой
сум адгоніш ад сэрца маёга.

— Эт, унучак, і мне невясёла,
бо стары; а як быў малады,
я іначай глядзеў навакола,
хоць прыгоншчыкам быў я тагды.

Хоць былі пад цяжарам прыгону,
хоць пад страхам жылі батага, —
забівалі мучэньні і стогны
сваёй весялосьцю, як мага.

Няраз, помню, па працы прыгоннай
змардаваныя ледзь-ледзь ідзем,
але песьняй, хоць з сьлёзаў зраджонай,
весялім свае гора—пяем!

Хаця тоны у ёй невясёлыя,
хоць з ёй сьлёзы ліюцца ракой,
але сілы дае яна новыя,
у душы спараджае спакой.

І цяпер, мой унук малады,
не даўжон ты душу спавіваць
у пялёнкі тугі і жуды,
а даўжон ты свой дух гартаваць

песьняй зычнай вясёла-раздольнай,
песьняй роднаю, поўнай надзей!
З ёй ты птушкай пачуешся вольнай,
сум, жуду пераможаш ты ёй.

Юльян Насьцюкевіч.

Шоўдрыкі. Люты, 1933.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22